БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЕЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

25 жніўня 1994 г.
Чацвер
№ 92 (13809)
Кошт у розніцу 10 рублёў
Выдаецца з 1921 года


*Малюе Віктар ДУБОВІК*





**Прыйшла вясельная пара...**

Фота Эдуарда КАБЯКА.

## Кур'ер "ЧЗ"

### Гродзенскія атрутнікі

*3 28 ліпеня па 15 жніўня ў Гродна зарэгістравана 750 выпадкаў вострых кішэчных захворванняў. Прычынай захворванняў сталі недабраякасныя прадукты.*

Каменціруючы гэты факт, галоўны санітарны ўрач рэспублікі Валерый Філонаў падкрэсліў, што хоць медыкі і спраўляюцца з сітуацыяй, гродзенская "надзвычайная сітуацыя" павінна насцярожыць і грамадзян, і работнікаў аховы здароўя, і гандлёвыя арганізацыі.

— Прычынай першай ліпеньскай успышкі кішэчных захворванняў стаў напітак, выраблены на Гродзенскім віназаводзе і не прайшоўшы санэпідкантроль, — гаворыць Валерый Пятровіч. — Другая ўспышка справакавана недабраякасным малаком і малочнымі прадуктамі, якія з-за падаражання грамадзяне куплялі ў запас. Работнікі гандлю таксама прыклалі руку, магчыма, спадзеючыся зарабіць на розніцы ў цэнах: проста прыхоўвалі тыя прадукты, тэрмін рэалізацыі якіх вельмі кароткі. Толькі за адзін дзень 15 жніўня было зарэгістравана 129 выпадкаў захворвання вострай кішэчнай інфекцыяй, 42 чалавекі шпіталізаваны. Дзяржаўныя санітарныя ўрачы зрабілі больш жорсткімі патрабаванні да прадпрыемстваў, якія выпускаюць малочныя прадукты і гандлююць імі. Матэрыялы па фактах парушэння тэрмінаў рэалізацыі скорапсавальных прадуктаў будуць перадавацца ў пракуратуру. Але і самі грамадзяне павінны сур'ёзна ставіцца да свайго здароўя: глядзець маркіроўку на ўпакоўках і бутэльках, патрабаваць у прадаўцоў ярлык прадпрыемства-вытворцы на нерасфасаваную прадукцыю. Толькі ў апошнія дні санітарна-эпідэміялагічная служба ў Гродна забракавала ў сувязі з прайшоўшымі тэрмінамі захоўвання 205 кілаграмаў смятаны, 36 кілаграмаў тварагу, 507 бутэлек малака, 335 бутэлек кефіру. Аштрафавана 76 службовых асоб.

### Новы пасол

*Мяркуецца, што ў верасні пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі і Беларусі ўзначаліць новы пасол.*

Як паведамілі ў пасольстве ЗША ў Мінску, Біл Клінтан назначыў на гэтую пасаду пана Яловіца. Аднак кандыдатура будучага кіраўніка дыпламатычнага ведамства яшчэ павінна быць зацверджана сенатам ЗША.

БЕЛІНФАРМ.

### Папскі нунцый на Беларусі

*Папскі нунцый, ксёндз-арцыбіскуп наведаў нядаўна Гродна.*

Пасланец Святога прастола ў суправаджэнні епіскапа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча сустрэўся са старшынёй абласнога Савета народных дэпутатаў. Прадметам размовы сталі праблемы развіцця каталіцкага руху на Гродзеншчыне. Папскі нунцый сустрэўся таксама са святарамі і прыхаджанамі горада, прыняў удзел у богаслужэнні ў Фарным касцёле.

Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.

### "Захаваем азон — абаронім жыццё"

*— такая галоўная тэма міжнароднага семінара "Манрэальскі пратакол па рэчывах, якія разбураюць азонавы слой: выкананне ў краінах СНД і Балтыі", што адбыўся ў Мінску. Ён праводзіўся пад эгідай праграмы ААН па навакольнаму асяроддзю.*

У рабоце семінара прынялі ўдзел прадстаўнікі прыродаахоўных і фінансавых ведамстваў, тэхнічныя спецыялісты і вучоныя па праблемах аховы азонавага слоя, вытворчасці і гандлю азонаразбуральнымі хімічнымі рэчывамі, прадстаўнікі дзяржаўных і няўрадавых арганізацый 16 дзяржаў.

Захаванне "азонавага парасона", які ахоўвае жыццё на зямлі ад згубнага касмічнага выпраменьвання, — глабальная праблема чалавецтва. Беларусь у ліку іншых дзяржаў, якія падпісалі пратакол, узяла на сябе абавязкі ахоўваць здароўе людзей і навакольнае асяроддзе ад неспрыяльных вынікаў, звязаных са змяненнем азонавага слоя. Аднак ва ўмовах крызіснай эканомікі рэалізаваць гэта няпроста. Вось чаму на семінары ішла размова і аб магчымасцях атрымання краінамі Садружнасці і Балтыі фінансавай дапамогі ад Міжнароднага супольніцтва для выканання патрабаванняў Манрэальскага пратакола.

Святлана КУЛІКОВА.

### Памяці Аляксандра Чуланава...

*будзе прысвечаны першы інтэрнацыянальны злёт турыстаў, які пройдзе 23—25 верасня на рацэ Іслач ў Валожынскім раёне.*

Яго праводзяць турклуб Мінскага завода падшыпнікаў, Беларускае тэлебачанне, турысцка-спартыўны саюз Беларусі. Аматары турызму атрымаюць магчымасць прыняць удзел у спаборніцтвах па арыентаванню на мясцовасці, па тэхніцы пешаходнага і воднага турызму. Будзе таксама конкурс самадзейнай песні і турысцкіх фільмаў.

Наталля ПЛЫТКЕВІЧ.

### Капаюць пад граніцу

*18 жніўня на ўчастку адной з застаў Гродзенскага пагранатрада пры правядзенні сумесных з польскай пагранічнай аховай аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў было затрымана адразу 67 парушальнікаў граніцы.*

Устаноўлена, што яны з'яўляюцца грамадзянамі Пакістана, Індыі і Шры-Ланкі. Як павялося ў апошні час, гэта група нелегалаў была сфарміравана ў Маскве, затым 3 дні правяла ў Мінску, адкуль на "Ікарусе" ўдачна дасягнула беларуска-польскай граніцы. Парушальнікі зрабілі падкоп пад інжынерна-загараджальнымі збудаваннямі. Аднак гэта не дапамагло. Беларускія і польскія пагранічнікі аказаліся на вышыні.

### Стрыптыз... на градках

*Неардынарны спосаб расправы з агароднымі грабежнікамі прымянілі жыхары аднаго з прыгарадаў Оршы. У адчаі ад масавых набегаў на градкі яны злавілі, распранулі і пусцілі галышом дамоў няпрошаную зборшчыцу ўраджаю.*

У арганізатараў такога "стрыптызу" знайшліся паслядоўнікі.

БЕЛІНФАРМ.

### Гумар у пагонах

*Не зганьбілі ваенную славу курсанты Мінскага вышэйшага ваеннага каманднага вучылішча. Сустрэліся яны "на полі бітвы" са студэнтамі Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута і пабілі іх у роўным баі. Яно і зразумела, скажаце вы, ваенныя людзі абучаны ваяваць і перамагаць. Аднак не ў ратнай працы вызначыліся будучыя афіцэры, захапілі ўсіх сваёй абаяльнасцю, артыстызмам, гумарам і весялосцю ў паўфінальнай гульні КВЗ.*

На шляху да фіналу брастаўчане адсталі на бал з хвосцікам. Дарэчы, курсанты МВВКВ таксама, магчыма, не ўсе застануцца. Большая палова ўдзельнікаў гульні стала лейтэнантамі і атрымала пуцёўкі ў войска. Ці дапаможа Міністэрства абароны маладой камандзе падрыхтавацца да фінальнай гульні ў верасні?

Ірына ГАРЭЛАЯ.

**Курсы валют на 24 жніўня:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 2635 | 2715 | 1705 | 1770 |
| "Прыор" | 2670 | 2720 | 1740 | 1770 |
| "Дукат" | 2630 | 2620 | 1700 | 1760 |

РЭПАРТАЖ У НУМАР

## Два лічым — нуль у галаве...

☐ Наталля ПЛЫТКЕВІЧ, "ЧЗ"

*Яшчэ дні чатыры таму кожны з нас без асаблівых намаганняў мог быць мільянерам. Дэнамінацыя беларускіх грошай, праведзеная 20 жніўня, гэту перспектыву зрабіла менш рэальнай. "вавёркі" і "зайцы" заскакалі ў сваёй рэальнай, адзначанай на іх вартасці, цэны зменшыліся на апошні нуль, але грошай ад гэтага больш у нас з вамі не стала. Хутчэй наадварот.*

Я пераканалася, што ў часы, калі краіну скаланаюць катаклізмы, лепш не хварэць. (А таксама забыць пра пацехі і скараціць свае выдаткі да мінімуму).

У пятніцу захварэла мая бабуля, спатрэбіліся лекі, але, сунуўшыся ў адну аптэку, другую, я ўбачыла іх дзверы зачыненымі. Усё тлумачыла красамоўная шыльда:"Зачынена на пераразлік у сувязі з дэнамінацыяй". У дзяжурнай патрэбных лекаў не знайшлося. Дзякуй сябрам — дапамаглі.

Меркаванне народу — яскравая ацэнка ўсіх дзеянняў урада. А дзе яшчэ можна пачуць гэта меркаванне, як не на базары! Таму кіруюся на Камароўку.

...Мітуслівая нядзеля — натоўп прадаўцоў, натоўп пакупнікоў. Апошнія, як буслы, выкідваючы ногі, абмінаюць вялізныя брудныя лужыны паміж гандлёвымі радамі: відаць, дождж быў ноччу не на жарт. А вось цэны пакуль "жартуюць". Усе блытаюцца, пытаючыся:"Па-новаму ці па-старому?"

Жанчына з Пінска, у якой купляю агуркі, пасміхаецца і махае рукой:"Лічу па-старому, так зручней". Так думаюць многія, цяжка за адзін-два дні перавучыцца і пачаць верыць напісаным на грашовых паперках лічбам. Так доўга мы прызвычайваліся памнажаць іх намінал у дзесяць разоў. Спярша, памятаю, і я неаднойчы "падманвалася", аддаючы за пакупку большую колькасць грошай, чым патрэбна. Далейшае залежала ад сумлення прадаўца...

Цяпер пакутуюць касіркі, асабліва пажылыя. Адна знаёмая ледзь не плача:"Зніму зараз халат ды пайду дадому!"

Толькі некалькі разоў давялося на Камароўцы пачуць "пасляРэформенныя" цэны: на бульбу, кавуны астраханскія, перац і мікраскапічныя пучкі кропу і пятрушкі: так, відаць, прадаўцам здавалася дзешавей. А вось вінаград па 7 тысяч ды жоўты перац па 4,5 нават і пасля рэформы "таннымі" не назавеш.

Між іншым, каб высветліць адносіны людзей да дэнамінацыі, бяру невялікія інтэрв'ю.

Святлана Яўгенаўна, інжынер, ставіцца да майго пытання амаль варожа і ў выразах не цырымоніцца:"Якая мне выгада ад гэтага? Нашых бы стратэгаў ды тыкаў палітычных на маю зарплату пасадзіць — вельмі хутка б штаны згубілі. Яе падтрымлівае студэнтка Ірына Кулічэнка:"Учора мы з сяброўкай захацелі ў кіно трапіць. Накіраваліся ўвечары ў "Партызан", а як пачулі цану, дыханне захапіла. Білет каштуе ўжо тысячу рублёў! Гэта па-старому — 10 тысяч. Дзе ж гэта бачана, каб білет у кіно быў дзесяць працэнтаў ад мінімальнай заработнай платы! А вы — дэнамінацыя..."

Карацей, як заўважыў, падсумоўваючы, Ірынчын спадарожнік Славік:"Трацiць грошы зрабілася куды весялей, а вось атрымліваць— больш сумна".

Вера Страмкоўская, адвакат:"Пачуцці людзей ужо атрафіраваліся ад узрушэнняў, звязаных з грашыма. Колькі над намі эксперыментавалі! То "паўлаўская" рэформа, то ягонае ж "замарожванне" рахункаў, то ўвядзенне "звярыных" грошай, то абяцанне аб'яднання з расійскім рублём. Атрымліваецца, што чалавек ужо не адчувае сябе гаспадаром сваіх грошай, таму і няма стымулу працаваць. Раней адкладвалі зберажэнні дзецям, цяпер гэта немагчыма. Грошы ніхто не копіць. Так, купляюць валюту, але валютнае заканадаўства такое, што вольна абыходзіцца з ёй немагчыма. Пабачым, што атрымаецца ад новых эксперыментаў з грашыма. Ды толькі, думаю, нічога добрага не будзе".

А вось бізнесмен Андрэй Волкаў даволі холадна адзначыў:"Мне ўсё роўна, колькі нулёў будзе на грашовых паперках і на цэнніках: сваю сям'ю я забяспечыць здолею! Непрыемна, вядома, што курс даляра цяпер падскочыць, але я да гэтага быў падрыхтаваны".

Магазіны, дарэчы, даволі дасціпна адрэагавалі на "новаўвядзенне". На цэнніках побач з закрэсленай цаной стаяла новая — каб пакупнікам было зручней. А яшчэ я чула, што ў некаторых крамах у касе выбівалі чэк на "старую" цану, потым пералічвалі "па-новаму". Што ж, будзем прызвычайвацца.

...Вярталіся мы з Камароўкі, пакінуўшы там крыху больш за мінімальную заработную плату. На жаль, яе пакуль ніякія "новаўвядзенні" не закранулі. А на аўтобусным прыпынку ля дома, быццам пратэст дэнамінацыі, рознакаляровымі абрыўкамі стракацелі парваныя папяровыя "звяры". Але ў чым яны вінаватыя?..

■

АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

## "Канстытуцыя вышэй за ўсё"

*Канстытуцыйны суд рэспублікі адзначыў нядаўна першы юбілей — 100 дзён свайго існавання. Тэрмін невялікі, аднак некаторыя вывады адносна работы новай прававой структуры можна зрабіць ужо сёння. Пра гэта — гутарка карэспандэнта Белінфарма з намеснікам Старшыні суда прафесарам права Валерыем ЦІХІНЯЙ.*

**— Валерый Гур'евіч, звычайнае пытанне аб планах на будучыню задаюць у канцы. Аднак Канстытуцыйны суд такі малады, што міжволі хочацца задаць гэта пытанне спачатку.**

— Так, за кароткі тэрмін мы паспелі зрабіць многа, але асноўнае, безумоўна, наперадзе, і на бліжэйшую будучыню ў нас ужо ёсць праграма дзеянняў. Я толькі хачу, крыху адступіўшы ад тэмы нашай размовы, напомніць грамадзянам аб тым, што Канстытуцыйны суд не ёсць арганізацыя, якая займаецца разглядам скаргаў па канкрэтных грамадзянскіх і крымінальных справах і з'яўляецца апошняй судовай інстанцыяй. Я гэта гавару таму, што не паспелі мы пачаць работу, як да нас хлынуў паток заяў і скаргаў па пытаннях, якія не ўваходзяць у кампетэнцыю Канстытуцыйнага суда. Хоць, зрэшты, думку грамадзян у сваёй рабоце мы ўлічваем. Напрыклад, зусім нядаўна, разгледзеўшы скаргі пенсіянераў, якіх звальняюць з работы ў сувязі з дасягненнем імі пенсіённага ўзросту, мы пачалі разгляд справы аб адпаведнасці Канстытуцыі асобных артыкулаў працоўнага заканадаўства. І наогул цяпер у большасці выпадкаў мы дзейнічаем па сваёй ініцыятыве. Так, у бліжэйшы час мы маем намер разгледзець пытанне аб дзеянні нарматыўных актаў, што рэгулююць правы і абавязкі грамадзян, якія не даведзены да іх ведама.

Мы маем намер разгледзець і пытанне аб адпаведнасці Канстытуцыі нарматыўных актаў, якія рэгулююць кампенсацыю ўрону, прычыненага проціпраўнымі дзеяннямі. Прывяду вам канкрэтны прыклад па сутнасці гэтага пытання. Калі скажам, у вас абакралі кватэру, то дзяржава павінна кампенсаваць вам урон, незалежна ад таго, знойдзены злачынца або не. Але ў рэальнасці цяпер вам не кампенсуюць нічога, нават, калі злачынца затрыманы, але паспеў ужо вашу маёмасць, груба кажучы, прапіць. Гэта супярэчыць прынцыпам прававой дзяржавы. Мы маем намер выступіць з прапановай аб стварэнні спецыяльнага дзяржаўнага фонду, з якога і праводзіць кампенсацыю ўрону.

**— Гэта ў рэспубліканскім маштабе. Але і на мясцовым узроўні ў нас прававых праблем хапае...**

— На жаль, гэта так. Але мы не маем намеру адступаць і тут. Цяпер, напрыклад, мы вырашылі праверыць на прадмет канстытуцыйнасці рашэнне Мінгарвыканкама, якое абмяжоўвае прыём грамадзян у прафтэхвучылішчы сталіцы на падставе таго, што яны не з'яўляюцца жыхарамі Мінска. Але ў Канстытуцыі ёсць артыкул, які гарантуе кожнаму даступнасць прафтэхадукацыі. Гэта ў прыватнасці. У цэлым жа падзаконныя акты, якія выдаюцца на мясцовым узроўні, выклікаюць сумнае ўражанне. Возьмем, напрыклад, штрафы. У адной вобласці яны адны, у другой — другія, а ў трэцяй — трэція. Таму мы цяпер думаем праверыць на прадмет канстытуцыйнасці Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях. Тут прававая беззаконнасць поўная.

**— З нашай гутаркі я зразумеў, што неадпаведнасцей Канстытуцыі ў рэспубліканскім заканадаўстве хапае. Але як быць грамадзянам, правы якіх гарантаваны Канстытуцыяй і ўшчамляюцца нейкімі падзаконнымі актамі?**

— Механізм прывядзення заканадаўства ў адпаведнасць з Канстытуцыяй даволі няпросты і працяглы. Законам для гэтага адведзены 2 гады. І мы цяпер імкнёмся разглядаць тыя нарматыўныя акты, якія прыняты пасля прыняцця Канстытуцыі, або тыя, разгляд якіх не церпіць адкладу. 2 гады з чыста чалавечых пазіцый — гэта, зразумела, многа, але ж нарматыўныя акты звязаны паміж сабой, як крывяносныя сасуды. Адмяніўшы ці змяніўшы адзін, трэба мяняць другі, трэці, чацвёрты... Для гэтага патрэбны час.

Што ж датычыць заканадаўства ў цэлым, то і юрысты, і юрыдычныя асобы, і простыя грамадзяне ў сваіх дзеяннях павінны кіравацца толькі Канстытуцыяй. Не ўсё цяпер гладка ў нашым заканадаўстве, але Канстытуцыя вышэй за ўсё.

**— І апошняе, можа быць, крыху бястактнае пытанне: ці не апасаецеся вы націску з боку ўладных структур і што вы будзеце рабіць, калі гэта адбудзецца?**

— Канстытуцыйнаму суду адведзена асобная і вельмі высокая роля ў прававой структуры дзяржавы, і я ўпэўнены ў тым, што і я, і іншыя члены суда з гонарам нясуць і будуць несці гэту нялёгкую ношу. І, нягледзячы ні на якія акалічнасці, мы будзем стаяць на варце Канстытуцыі. Мы прынялі Кодэкс гонару суддзі Канстытуцыйнага суда і ганьбіць сябе не збіраемся.

Аляксандр ЛІМАНОЎСКІ.

ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



## "Суперчэннэл" — "Еўраньюс" — "Уорлднэт" — "TV-5"

### Землятрус у Алжыры

*У заходняй частцы Алжыра адбыўся землятрус, у выніку якога загінула 150 чалавек. Больш як 300 чалавек атрымалі раненні.*

Спецыяльная выратавальная каманда разам з рэгулярнымі часцямі ўзброеных сіл праводзяць аперацыю па пошуку прапаўшых і ліквідацыі вынікаў катастрофы. Гэта самы моцны землятрус за апошнія 10 гадоў.

### Вывад войск з Самалі

*Генеральны сакратар ААН Бутрас Галі аб'явіў аб рашэнні вывесці каля 14 тысяч амерыканскіх салдат з Самалі.*

Заяўлена, што ЗША лічаць немэтазгодным фінансаваць аперацыю, якая не прыносіць бачнага выніку.

### Прэзідэнт гарантуе...

*Прэзідэнт Мексікі выступіў па нацыянальнаму тэлебачанню.*

Ён запэўніў насельніцтва, што выбары, якія пройдуць у бліжэйшы час у гэтай краіне, будуць свабоднымі ад націску карумпіраваных чыноўнікаў.

### У школу — з выратавальнымі камізэлькамі

*Урад Малайзіі аб'явіў аб фінансаванні праекта па забеспячэнню каля 26 тысяч школьнікаў выратавальнымі камізэлькамі.*

Гэта акцыя выклікана частымі смяротнымі выпадкамі сярод дзяцей, якім даводзіцца пераходзіць шматлікія рэчкі, каб дабрацца да школы.

### Паніка ў Заіры

*Урад Заіра аб'явіў аб рашэнні закрыць граніцу з Руандай.*

Гэта адбылося пасля таго, як новы ўрад Руанды аб'явіў, што пасля вываду французскага ваеннага кантынгенту іх войскі зоймуць так званыя гуманітарныя зоны, створаныя французамі. Мясцовае насельніцтва пачало панічна пакідаць абжытыя месцы.


(Працяг на 3-й стар.)


ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"


Дзяжурныя па выпуску перакладчык Андрэй СІДАРАЎ, рэдактар Павел СІМАНАЎ.

